# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 25 (1727) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК 18 ЧЭРВЕНЯ 1989 г. ЦАНА 40 зл.




*Галасістыя дзяўчаткі з Нарвы: Івона і Агнешка Зібрыцкія і Кася Карабкевіч.*

„БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ '89" ДЛЯ ШКОЛЬНІКАЎ

## СПЯВАЦЬ ВУЧЫМСЯ ЗМАЛКУ

20 мая ў Бельскім доме культуры адбыўся апошні ўжо ў гэтым навучальным годзе беларускі мастацкі конкурс — „Беларуская песня '89" для школьнікаў.

І на гэты раз пацвердзілася старая праўда, што спяваць трэба вучыцца змалку. Слухаючы са сцэны малых спевакоў, лепш пачынаем разумець, адкуль бярэцца наш такі масавы беларускі спявачы рух. Мастацкае багацце конкурсаў для дарослых відаць, як у люстэрку, і на дзіцячай сцэне. Расспяваныя, раскаханыя ў сваіх цудоўных песнях, беларусы спяваюць штодзень пры розных нагодах і нават без іх. А разам з дарослымі спяваюць і дзеці, аслухоўваюцца з музыкай, са спяваннем на галасы і перажываюць кожную песню па-свойму, з уласным настроем інтэрпрэтуючы яе.

Ці ж не з гэтага вынікае такая масавасць і дзіцячага конкурсу? Вядома, гэта толькі ўмовы, падставы. А за імі стаіць і адданасць настаўнікаў — беларусістаў і музыкаведаў. Гэта дзякуючы іх супрацоўніцтву паміж сабою (нярэдка гэтыя дзве прафесіі сустракаем у адной асобе) і іх шматгадовай працы з дзецьмі мы сёння можам цешыцца такімі дасягненнямі ў дзіцячым спяванні.

У сёлетнім конкурсе беларускай песні прыняло ўдзел некалькі соцень удзельнікаў. Спачатку адбыліся школьныя конкурсы там, дзе навучаецца беларуская мова. Затым лепшыя спевакі выступілі на раённых аглядах — у Беластоку, Бельску, Гайнаўцы і Кляшчэлях. Найлепшыя ж сустрэліся 20 мая на Цэнтральным аглядзе. Прыемную неспадзяванку зрабіў гледачам сваім прыездам новы мастацкі калектыў з Гданьска. Арганізатарам яго і апекуном з'яўляецца настаўніца Анна Іванюк, а мастацкім кіраўніком Ірыней Лаўрэшук. У калектыве спявае сем чалавек, а трое — грае. Гданьшчане прывезлі, апрача дзвюх песень на конкурс, сваё ўласнае прывітанне слухачам, назваўшы яго „Сюрпрыз".

У конкурсе выступілі два вялізныя, 60-асабовыя хоры — з бельскай школы № 3 і са школы ў Старым Ляўкове, тры вакальна-інструментальныя калектывы (па 10-12 чалавек) — з бельскай школы № 3 „Жучкі", з Гданьска і з Пашкоўшчыны „Зярняткі"; два вакальныя калектывы з Гайнаўкі (са школы № 2 і з жыллёвага кааператыву), калектывы з Кляшчэляў, Дашоў, Орлі, Дубічаў-Царкоўных, Малінікаў, а таксама дуэты і салісты малодшага і старэйшага ўзросту.

Пяць гадзін, нават без перапынку, змяняліся на сцэне спевакі. Раён за раёнам, салісты і калектывы. Са сцэны ліліся цудоўныя песні, папулярныя, толькі знаёмыя і нават такія, якія даводзілася чуць першы раз. Перажывалі свае выступленні ўдзельнікі, вельмі хваляваліся за іх апекуны-настаўнікі. А дарослая публіка (была і такая) вельмі шчыра рэагавала на мастацкасць дзіцячых выступленняў. Удалося мне падгледзець (прашу прабачэння), як у час песні „Жураўлі", якую выконваў Адам Жарначук з Рыбалаў (аўтар песні Мі-

(Працяг на стар. 6)

# ЦІ ПРАЙГРАЛІ МЫ ВЫБАРЫ?

Мы, беларусы, першы раз у гісторыі Народнай Польшчы прынялі **самастойны** ўдзел у выбарах. Вылучылі ўласных кандыдатаў — Сакрата Яновіча ў Сенат і Яўгена Мірановіча ў Сейм. Атрымалі яны значны працэнт галасоў, а ў некаторых раёнах выйшлі нават у лідэры (даныя апублікуем асобна). За нашымі кандыдатамі не стаялі ні магутныя арганізацыі, ні шматмільённыя сродкі. На іх выбарчую кампанію склалася грашыма жменька актывістаў беларускага руху — хто даў тысячу злотых, а хто пяць або дзесяць. Хапіла на друкаванне пару плакатаў ды лістовак, і на куплю бензіну для некалькіх аўтамашын, якімі пакарысталіся — прыватна — ад спачуваючых асоб. Вынікі галасавання прыемна здзівілі нас. Дабіліся мы больш, чым спадзяваліся.

Нехта можа запытацца, чаму не выступілі мы ў саюзе з Праваслаўнай Царквою або наогул з Кааліцыяй. Адказваем: **мы саюзу хацелі**. І хоць наша працягнутая для супрацоўніцтва рука павісла ў паветры, мы дабразычліва прапагандавалі таксама іх кандыдатаў. Што датычыцца нашых жа, дык добра яшчэ было, калі яны пра іх маўчалі. І гэта дадаткова пацвярджала слушнасць нашага рашэння не адступіцца. Пайшлі мы да людзей з клічам: **„Беларусы! Пра нашы справы будзем гаварыць самі"**.

Нехта запярэчыць: ні Яновіч, ні Міраповіч не прайшлі ў выбарах, не будзе нашых у парламенце Польшчы. Адказваем: так заўсёды будзе, пакуль не зменіцца падзел выбарчых акругаў у карысць беларусаў, каб маглі суверэнна выявіць волю мець або не мець сваіх прадстаўнікоў у найвышэйшым форуме Рэчыпаспалітай.

Мы прайгралі ў выбарах, бо не маглі не прайграць. **Але мы выйгралі ў галасаванні**. Мы сталі важнай палітычнай сілай у рэгіёне, **трэцяй** пасля Кааліцыі і „Салідарнасці". З намі ўжо нельга не лічыцца. І гэта вялікі выйгрыш!

**Ад чацвертага чэрвеня — Дня выбараў — беларускія справы і праблемы набылі новае, шырокае значэнне.** Прэзентуючы іх у выбарчай кампаніі, нашы кандыдаты атрымалі народную падтрымку. Дзесяткі тысяч выбаршчыкаў Беласточчыны аддалі на іх свае галасы. Гэта сведчыць і аб тым, што ўплывы Беларускага грамадска-культурнага таварыства, „Нівы" ці Беларускага аб'яднання студэн-

(Працяг на стар. 7)

# ПРЫГРАНІЧНАЯ СУСТРЭЧА

У нядзелю, 28 мая г.г., між Гарадком і Валілямі, у лясочку Барок адбылася прыгранічная маніфестацыя дружбы насельніцтва Гарадоцкай гміны і прыгранічных раёнаў БССР: Бераставіцкага і Ваўкавыскага.

Прыбылі ў Барок тысячы людзей. Многа беластаччан прыехала сюды з намерам прадаць-купіць, загандляваць з суседзямі, якіх прыехала на аўтобусах усяго пяцьсот чалавек. Некалькі гадзін перад афіцыйнай часткай беларускія страганы былі проста недаступнымі, карысталіся вялікім зацікаўленнем польскіх пакупнікоў. Харчовыя і кулінарныя пункты з Гарадка і Міхалова таксама мелі сваіх кліентаў.

А 11 гадзіне пачаўся канцэрт аркестра Механічнага тэхнікума ў Беластоку. Пасля на сцэну ўвайшлі школьнікі з Гарадка, Бераставіцы і Ваўкавыска, якія супольна спявалі і дэкламавалі вершы. Сваю мастацкую частку пачалі яны песняй „Пусть всегда будет солнце".

Хаця сустрэча адбывалася з нагоды Міжнароднага дня дзіцяці, можна было на ёй пазнаёміцца з кандыдатамі ў сенатары і паслы, якіх выбіралі 4 чэрвеня. З дакладамі выступілі: першы сакратар гміннага камітэта ПАРП у Гарадку Юры Цыванюк і намеснік старшыні гарадской рады ў Ваўкавыску Цімафей Іванавіч Бязносік.

Затым школьнікі далей працягвалі сваю песенную і танцавальную праграму. Моцна прагучаў Зварот школьнікаў аб абароне міру на свеце і дзяцей ад крыўды, які быў уручаны старшыні Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку праф. Мар'яну Шаматовічу.

Своеасаблівы і цікава праходзіў выбарчы фэст, арганізаваны школьнікамі з удзелам кандыдатаў у сенатары і паслы. Да іх моладзь кіравала пытанні і мастацка-жартоўныя заданні пры акампанеменце аматарскай капэлы з Васількова. Такім спосабам рэкамендаваліся кандыдаты ў сенат ПНР — Мар'ян Шаматовіч і Вітальд Карчэўскі, а ў Сейм — Ядвіга Рудзінская-Патэюк, Уладзімір Цімашэвіч і Міраслаў Суравец.

Маніфестацыю дружбы закончылі песенныя і танцавальныя выступленні самадзейнікаў з-за мяжы, з суседняй Беларусі. Шкада толькі, што і афіцыйная прамова і канферанс праходзілі не на беларускай мове.

**Міхась Хмялеўскі**
**Фота Янкі Целушэцкага.**



*Кандыдаты ў паслы і сенатары мадэліруюць сукенкі паводле сваіх густаў на манекеншчыцах.*



*На сцэне падворкавая капэла з Васількова.*



*З дакладам выступіў І сакратар Гміннага камітэа ПАРП у Гарадку Юры Цыванюк.*



*Сабралася многа людзей з усіх куткоў Беласточчыны, а таксама з Ваўкавыскага і Бераставіцкага раёнаў.*

---

грэх, што адышоў ад нас, не пагоджаны з Богам.

— Добра, разумею паню, — адказаў ксёндз. — Пачну з таго, што зраблю пану Луцкевічу візіт; скажу, што лячуся тут і даведаўся, што маем гэтак выдатнага беларускага дзеяча ў санаторыі, і я прыйшоў, каб з ім пазнаёміцца і буду гутарыць аб справах агульных. Справы Божыя пакінем на пазнейшыя гутаркі і спадзяюся, што пані, як набожная жанчына, мне ў гэтым будзе дапамагаць.

— Я зраблю, што магу!

Мы развіталіся, і я вярнулася да Івана.

— Што гэта ты так доўга была на абедзе? — з дакорам спытаў ён.

— Я не хацела перарываць твой пасляабедзенны адпачынак.

— Я драмаў досыць перад абедам, ты абяцала мяне выслухаць.

— Ну, дык пачынай, калі гэта цябе так мучыць.

— Юлінька, — пачаў Іван, — гэтыя апошнія месяцы, лежачы самотны і хворы, я меў шмат часу быць з сваімі думкамі. І я думаў аб табе, я зноў перажыў, як мы пазнаёміліся і пакахаліся, якая ты для мяне была заўсёды добрая, а я часта быў „немагчымым", а галоўнае, што я не паруліўся даць табе сваё імя. І вось гэта мяне асабліва мучыць, што за ўсімі справамі я забыўся аб нашай асабістай справе. Чаму ты мяне ў той час не лаяла і не дамагалася свайго права?

Я яго супакоіла, як магла, што хвароба і цяжкія абставіны маёй сям'і былі перашкодай, што тут больш маёй віны, чым яго, што ў Вільні ніхто на нас коса не глядзеў, што мы не венчаныя; усе, хто нас ведаў, разумелі, што ў такіх абставінах, як мы былі, цяжка вымагаць, каб мы пажаніліся. Але цяпер вайна скончылася, на канферэнцыі ў Версалі вырашаецца лёс новае Еўропы і Незалежная Беларусь зажыве сваім собскім жыццём. Няхай цяпер іншыя вядуць далей беларускія справы, а ты заслужыў на адпачынак і вось я прыехала, каб цябе даглядаць і як толькі паправішся, то разам паедзем у Вільню і там абвянчаемся.

— Не, Юлінька, — радасна ўсхапіўся Іван, — мы ўжо тут, перад ад'ездам возьмем шлюб, і падарожжа ў Вільню будзе нашым вясельным. Ну і я хутка папраўлюся, калі ты будзеш пры мне. Ах, як мне хочацца ў Вільню!

Я ўва ўсім з ім згаджалася і падтрымлівала ягоныя летуценні; гэтак я супакойвала і цешыла маё беднае хворае дзіця. Іван, як шмат цяжка хворых, жыў больш успамінамі і летуценнямі, на ўсё глядзеў з надзеяй на лепшае, адным словам у яго аслабела здольнасць крытычна разглядаць нашу жорсткую рэчаіснасць. Ён зноў мог верыць і цешыцца, як дзіця. І я з ім, як дзіця, рабіла планы, што потым на зіму паедзем з Вільні ў Швейцарыю, або Францыю, каб ён там канчаткова выздаравеў. Ён з усяго цешыўся, і калі сястра прыйшла з вячэрай, яна сказала:

— Пан сёння весялей глядзіць і мае лепшы апетыт, вось што значыць мець мілых гасцей!

Мне пара было ісці дахаты, і калі я на сон цалавала Івану вочы, ён сказаў:

— Вось сёння я буду добра спаць, але ты толькі раней прыходзь.

Я пайшла пехатой, каб на свежым паветры абдумаць сённяшні дзень.

— Божа, ён адыходзіць ад нас, Божа, памажы, каб ён паяднаўся з табою і гэткі радасны, як сёння, увайшоў у светласць Тваю.

Больш я не смела прасіць за яго. А за сябе маліла, каб Бог мне даў сілы з пакорай усё перанесці.

*(Працяг будзе)*

# СПЯВАЦЬ ВУЧЫМСЯ ЗМАЛКУ

(Працяг са стар. 1)

калай Ігнацюк з Рыбалаў, душа калектыву „Хлопцы-рыбалоўцы“), жанчыны ў пярэдніх радах употай змахвалі слязу, а адна з іх, яшчэ зусім маладая, і добра расплакалася. Відаць, гісторыя, расказаная ў песні-баладзе. нешта прыгадала ёй з уласнага лёсу.

Падабаліся і іншыя салісты. Наогул, цешыць вялікая колькасць добрых, ад прыроды пастаўленых і вельмі звонкіх галасоў, як дзявочых, так і хлапечых. Добра спявалі Гражына Галавачык, Ёля Загон, Марыя Аліфер, Агнешка Камінская, Ася Барташэвіч, Войтэк Томчук, Эва Стэльмашук, Эля Ваўранюк, Кася Коршак і іншыя. А асабліва спадабаліся слухачам салісты — малышы: сямігадовы Аркадзік Якімюк і васьмігадовая Юльянка Карзуновіч з Чыжоў. Не па ўзросту моцныя, гучныя, роўныя і чыстыя галасы. Іх апякунка-настаўніца Ніна Адамюк (сама доўгі час спявала ў гайнаўскім хоры) мае выключныя здольнасці да вышукоўвання дзіцячых талентаў.

Вельмі цікава выступілі малыя, што спявалі ў дуэтах: хлопцы Сымон Ламашкевіч і Лешак Супрунюк з Чарэмхі і дзяўчаткі Эва Дземянюк і Эмілія Дзмітрук з Дубічаў-Царкоўных.

Малыя вакальныя групы вучняў таксама былі прадстаўлены багата: дуэты, трыо, квартэты, квінтэты. Асабліва мілагучна спявалі ў дуэтах сёстры: Крыся і Ёля Семянюк з Храбалоў, Кася і Эва Карабкевіч, а таксама Івона і Агнешка Зубрыцкія з Нарвы.



*Вакальна-інструментальны калектыў з Гданьска.*

Высокую ацэнку ўсяму конкурсу даў вядомы ў Беластоку старэйшы педагог і настаўнік Беластоцкай музычнай школы, старшыня журы конкурсу Ежы Сьрудкоўскі. „Каб такія таленты, якіх мы сёння тут слухалі, — сказаў ён, падсумоўваючы конкурс, — прыходзілі ў нашу музычную школу, я быў бы ў захапленні. Не ўсе, вядома, хто сёння тут спяваў, павінны выбраць прафесію спевака. Але некаторыя, з выключнымі галасамі і добрым слухам, могуць і павінны кіраваць свае жыццёвыя крокі на музычны шлях“.

Хочацца яшчэ падкрэсліць добрую арганізацыю конкурсу. Цэнтральны агляд, на якім мне давялося быць, праходзіў спраўна, хутка, прадумана. Усім удзельнікам, з кім удалося правесці перад конкурсам рэпетыцыі, было забяспечана музычнае суправаджэнне сіламі працаўнікоў Дома культуры. Усе дзеці атрымалі гарачы абед (за гэта сардэчна дзякуем дырэкцыі школы № 3), працаваў на месцы буфет з напіткамі і ласункамі, вельмі добра і са знаўствам справы вёў канцэрт канферансье Янка Мордань. Дырэктар Бельскага дома культуры Сяргей Лукашук са сваімі памочнікамі апрацаваў парадак конкурсу і дапамог моладзі, даючы ім у карыстанне добрую апаратуру.

Такім чынам, апошні агляд беларускай песні для школьнікаў пакінуў па сабе вельмі добрыя ўражанні. Моладзь пацешыла сваімі здольнасцямі, новыя беларускія песні пайшлі ў народ і, пэўна, па прыкладу папярэдніх гадоў зноў стануць папулярнымі ў нашым асяроддзі, а тым, хто любіць хадзіць на канцэрты ў час конкурсаў, застаецца цярпліва чакаць да новага культурна-асветнага сезона.



*Адам Жарначук — лаўрэат конкурсу беларускай песні для школьнікаў са сваёй сястрой Эвай, якая дадае яму ахвоты спяваць і дапамагае, падтрымоўвае ў адказныя хвіліны.*

Аб падсумаванні конкурсу чытайце ў гэтым нумары „Зоркі“.

**Яніна Чэрнякевіч**
**Фота аўтара**

## ШЛЯХАМ ГАДОЎ

### ШЛЯХ У ЛЁХ І НА ПЛАХУ



Не кожны вораг нашага ворага падыходзіць нам у прыяцелі. Гэтак можна было б перафразаваць агульнапрыняты ў палітыцы прынцып, калі б яго аднесці да князя Льва-Свідрыгайлы-Баляслава — наймалодшага сына вялікага князя Аляксея-Альгерда і цвярской княжны Улляны.

Пасля вяртання ад крыжакоў і раскаяння перад каралём Ягайлам і вялікім князем Вітаўтам у 1403 г. (адрэзак „Змаганне за раўнапраўе“, „Ніва“ ад 23.IV.1989 г.) Свідрыгайла атрымаў ва ўладанне абшырную Чарнігава-Северскую зямлю. Здавалася б. што тут то ўжо будзе да чаго прыкласці і ягоную невычэрпную энергію і ненасытную прагу ўлады: перад ім прасціраліся неабсяжныя прасторы чарнаморскага і азоўскага ўзбярэжжа, данскіх і кубанскіх стэпаў. І, мабыць, у тым кірунку нацэльвалі і Вітаўт і Ягайла ўвагу Свідрыгайлы, каб якраз такім коштам ён будаваў сваю, калі ўжо не самастойную дзяржаву, то прынамсі прыстойны ўласны княжацкі ўдзел.

Аднак такая перспектыва зусім не спакушала Свідрыгайлу, яго маніў віленскі вялікакняскі пасад. А дзеля апанавання ім патрэбна была вайсковая сіла і то не абы-якая, бо моц Вітаўта расла дзень за днём. Спробы пакарыстацца падтрымкай і дапамогай крыжакоў, апрача вынішчэння ды абязлюднення роднага краю, нічога карыснага Свідрыгайлу не прынеслі. Болей таго: надта ж некарысна падмочвалі рэпутацыю князя, бо ў вачах тадышняга беларускага і ўкраінскага баярства Ордэн і Залатая арда лічыліся найгоршымі іншавернымі ворагамі, прыязь з якімі прымалася за здразу Айчыне. Наймалодшы Альгердавіч добра пра тое ведаў і разглядаўся за іншымі, больш адпаведнымі саюзнікамі.

Вядома, найлепшым партнёрам Свідрыгайлу быў бы вялікі князь маскоўскі Васіль Дзмітравіч. Але пра тое ён мог сабе толькі ў снах марыць. Васіль Дзмітравіч ад самага пачатку свайго княжання (1389 г.) паводзіў сябе мірна, а нават падатліва ў суадносінах са сваім вялікім цесцем Вітаўтам не столькі з прычыны сваяцтва (князёўну Соф'ю Вітаўтаўну, як памятаем, завезлі ў Маскву ў 1391 годзе), колькі з палітычных меркаванняў: Маскоўскае княства ўвесь час мела татарскі нож на сваім горле, і такі магутны сусед, як Вялікае княства Літоўскае, быў адзінай яго падпорай і надзеяй на ратунак. Затым Маскоўскае княства было непараўнальна слабейшым за Старабеларускую дзяржаву, і маскоўскія баяры нездарма ганарыліся тым, што іхні князь „ходит в зятьях у великого Витолта“. Зрэшты, дзякуючы знакамітаму цесцю Васіль і трымаўся на маскоўскім пасадзе, бо канкурэнтаў у яго было хоць адбаўляй. Першынство да вялікакняскай „шапкі Манамаха“ (своеасаблівай кароны вялікіх князёў маскоўскіх) перад Васілём належала ягонаму дзядзьку князю Уладзіміру Данскому ды і родныя браты Васілёвы таксама толькі і чакалі зручнай нагоды, каб авалодаць вялікакняскім пасадам. Але ўсе яны. як агню, баяліся Вітаўта.

Аднак з бегам часу князь Васіль умацаваўся на маскоўскім пасадзе, аддаліў магчымасць „засесці“ яго канкурэнтамі і пачаў употайку ад цесця там ды сям праводзіць уласную палітыку ды супраціўіцца яму. Калі ў 1405 г. Вітаўт павёў справу на далучэнне да Старабеларускай дзяржавы спрадвечна заселеную крывічамі Пскоўшчыну, у Маскве падняўся гвалт. Заручыўшыся дапамогай залежнага ад сябе цвярскога князя, Васіль з вялікім войскам рушыў на захад, спрабуючы здабыць Вязьму, Сярпейск і Казельск (знаходзіліся ў 120-160 кіламетрах ад Масквы), але беларускія вої абараняліся належным чынам і Васілёвы дружыны адкаціліся прэч, пакідаючы ўсланыя целамі сваіх ваяўнікоў подступы да гэтых крэпасцяў.

Папраўдзе, гэтая сутычка вайсковага значэння не мела амаль ніякага, затое палітычная вага яе была вялікая. Яна аказалася пачаткам адкрытых канфліктаў паміж Вітаўтам і яго зяцем, а гэтым сквапна пачалі карыстацца незадаволеныя Вітаўтавай палітыкай удзельныя князі і залежныя ад іх баяры. Першы здрадзіў Вітаўту князь Аляксандр Нелюб Гальшанскі і са значнай світай баяраў, праваслаўных і католікаў (!) перайшоў у Маскву на службу да князя Васіля. Той прыняў перабежчыка з распасцёртымі абдымкамі, даў яму ва ўладанне заможны горад Пераяслаўль, быццам прадчуваючы, што гэта першы струменьчык, які намацвае шлях і пракладвае русла вялікай рацэ, якая цэлыя стагоддзі будзе абяскроўліваць Старабеларускую дзяржаву горш усялякіх найцяжэйшых паражэнняў у бітвах. Гэтае благое прадвесце таксама заўважыў Вітаўт.

Варожасць паміж Вільняй і Масквою паглыблялася. Абедзве краіны паспешліва рыхтаваліся да вырашальнай бітвы. Увосень князь Васіль з маскоўскімі і цвярскімі палкамі ды татарскай ардой увайшоў ва ўладанні Старабеларускай дзяржавы і пачаў пасоўвацца ў кірунку Бранска, хапаючы палон, рабуючы ды палячы. Але яго неўзабаве запыніла і пагнала назад

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

### „БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ 89“ ДЛЯ ШКОЛЬНІКАЎ

Журы: Ежы Сьрудкоўскі, выкладчык Беластоцкай музычнай школы — старшыня, Віктар Стахвюк, сакратар ГП БГКТ — член, Яніна Чэрнякевіч, рэдактар „Зоркі“ — член, — падсумоўваючы конкурс „Беларуская песня 89“ для школьнікаў, вырашыла:

— у катэгорыі салістаў малодшых класаў (0-3) першае раўназначнае месца прызнаць Юльяне Карзуновіч і Аркадзю Якімюку з Чыжоў;

— у катэгорыі дуэтаў малодшых класаў: I месца — Сымону Ламашкевічу і Лешку Супрунюку з Чарэмхі, II месца — Эве Дземянюк і Эміліі Дзмітрук з Дубічаў-Царкоўных;

— у катэгорыі салістаў старэйшых класаў (IV-VIII): I месца — Адаму Жарначуку з Рыбалаў, II — Гражыне Галавачык з Кленікаў і Ёлі Загóн з Пашкоўшчыны, III месца — Марыі Аліфер з Старога Ляўкова і Агнешцы Камінскай з Кляшчэляў, адзначаны выступленні Войцеха Томчука з Дубяжына і Эвы Стэльмашук з Орлі;

— у катэгорыі малых вакальных груп старэйшых класаў: I месца — дуэт Крысі і Ёлі Семянюк з Храбалоў, II месца — падзялілі дуэты: Івона і Агнешка Зубрыцкія і Кася і Эва Карабкевіч, III месца — квартэт і дуэт з Дашоў, адзначана было выступленне Алі і Элі Максімюк з Пашкоўшчыны;

— у катэгорыі большых вакальных калектываў малодшых дзяцей: I месца — калектыў „Бядронкі“ з жыллёвага кааператыву ў Гайнаўцы, II месца — калектыў з Кляшчэляў, III месца — калектыў з Дубічаў-Царкоўных;

— у катэгорыі большых вакальных груп старэйшых класаў: I месца — „Лянок“ з Кляшчэляў, II месца — „Беларусачкі“ з Дашоў, III — калектыў са школы № 2 у Гайнаўцы, адзначаны калектыў з Орлі;

— у катэгорыі інструментальна-вакальных калектываў: I месца — „Жучкі“ са школы № 3 у Бельску, II месца — калектыў з Гданьска, III месца — „Зярняткі“ з Пашкоўшчыны;

— у катэгорыі хораў: I месца — хор са школы № 3 у Бельску, II месца — хор са школы ў Старым Ляўкове.

Я. Ч.

Фота аўтара


Вакальная група са школы № 2 ў Гайнаўцы. Вядзе Янка Васілюк.


„Жучкі“ з бельскай школы № 3. Вядзе Сяргей Лукашук.


Калектыў малышоў з гайнаўскага жыллёвага кааператыву. Вядзе Ірына Лукашук.




Беларуская народная казка

*У апрацоўцы А. Якімовіча*

*Частка 1.*

Жылі дзед і баба. Мелі яны сына і ката. Сына звалі Марцінам, а ката — Максімам.

Памерлі дзед і баба. Застаўся Марцін з катом Максімам.

Марцін гультай быў вялікі, усё на печы ляжаў, а кот яму насіў: то птушку дзе зловіць, то каўбасу ці сала ў суседзяў украдзе...

Вось так жылі яны, жылі — згарэла хата, адна гліняная печ засталася.

— Што рабіць будзем? — пытаецца кот у гаспадара. — Трэба хату будаваць.

— Ат, — кажа Марцін, — навошта нам хата? Хопіць і печы.

Пажылі яны з год на печы, а тут і печ развалілася.

— Што рабіць будзем? — зноў пытаецца кот у гаспадара.

— Ты, — кажа Марцін, — як сабе хочаш, а я надумаўся жаніцца: вазьму багатую жонку, яна мне пабудуе хату.

— Хто за такога гультая пойдзе замуж? — смяецца кот. — Ты ж толькі любіш ляжаць на печы, у цябе і выгляд нечалавечы.

— Пойдзе! — кажа Марцін. — Няма чаго смяяцца! Сама царэўна пойдзе. Ідзі, Максім, да цара. Скажы яму — так і так, пан Марцін, па прозвішчу Глінскі-Папялінскі, сватаецца да тваёй дачкі. Ну і зрабі ўсё, як трэба: нагавары яму, што багацейшага за мяне пана ва ўсім царстве не знайсці.

— Цяжкую ты загадаў мне службу, пане Марцін Глінскі-Папялінскі, — кажа кот.

— Нічога, ідзі, а то папругі дастанеш! — пагразіў яму гаспадар.

— Ну што ж, спрабую шчасця.

Нанасіў кот гультаю Марціну яды ў запас, каб той з голаду не памёр, а сам выправіўся ў далёкую дарогу.

Ідзе ён, ідзе, прыходзіць у лес. Бяжыць насустрач заяц.

— Куды, кот, ідзеш? — пытаецца ён.

— Да цара.

— Чаго?

Кот падумаў і кажа:

— На суд...

— На які суд?

— Праўды хачу дайсці.

— Якой праўды?

— А вось якой. Дзе што кошка ўкрадзе або нашкодзіць — усё на ката звальваюць. Кот, кажуць, смятану злізаў, кот сала ўкраў... А ката там і блізка не было. Не магу я цярпець такога паклёпу на сябе.

— Пайду хіба і я з табою! — кажа заяц.

— Чаго?

(Працяг на стар. 10)

Мар'ян Дукса

### ДА ДЗЕДА У ПУШЧУ

Хутчэй у край
лясного гуду!
Там буду вёрткім
быццам ліс,
Арэхі там я
лускаць буду,
Скакаць з ляшчыннікаў
уніз...
Блукаць,
Мінаючы завалы,
Каб лісце білася
У твар.
Мой добры дзед —
ляснік бывалы,
Дрэў векавечных гаспадар.
У дзеда там, на панадворку,
Каля разгалістых лясін,
Казулі скачуць і вавёркі,
Яноты ходзяць і ласі.
У дзеда столькі ўжо спагады
Да іх,
Што нельга расказаць.
Таму жывёлы, птушкі рады
З рукі ягонай
хлеб узяць.
Я там успомню
песень мноства —
Мяне лясныя жыхары
Пасля кароткага знаёмства,
Магчыма, прымуць у сябры.

# НІЎКА

## РАСТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК „НІЎКІ“

**Абмяшаць** — аблажыць мяшкамі.
**Абнадзеіць** — ажаніць з Надзеяй.
**Абносіць** — натаўчы па носе.
**Абойдзены** — абклеены абоямі.
**Абрасіць** — выгадаваць нейкую расу жывёлы.
**Абурэнне** — надвор'е з віхурамі.
**Абучаны** — чалавек у абутку.
**Абчасаны** — абмежаваны чалавек.
**Агародніна** — Ніна, якая займаецца (працуе) ў агародзе.
**Адбараніцца** — перастаць „клеіць дурня“.
**Адвадзіць** — высушыць.
**Адведаць** — пазбавіць кагосьці ведаў.
**Адвёртка** — дзяўчына, якая не хоча.
**Адводка** — хвароба ад гарэлкі.
**Адвязаны** — лес, у якім вырублены вязы.
**Аддаліць** — ліць у меру (ад-да).
**Адзеты** — гульня ў хованкі.
**Адзіночка** — дзяўчына на адну ноч.
**Адзіночнік** — хлопец на адну ноч.
**Адзінства** — самотнасць.

„ядань“

## ЦЯРПЕННЕ НЕ СТРЫВАЛА

— Слоў не знайду, каб расказаць вам, выпадак гэткі страшны быў.
Ратуйце, доктар. Свайму зяцю я ўчора ногі перабіў.

— Ну што ж. Мы зяцю дапаможам, аднак задумайцеся й вы.
Усё ж як-ніяк, а непрыгожа да зяця гэткім грубым быць.

— Я разумею гэта, доктар!
Ды я не ў сілах быў стрываць.
Бяда ўся ў тым, што яшчэ ўчора ён не згаджаўся зяцем стаць.

**Васіль Гедзька**

## ЗАПРАШАЕМ МОЛАДЗЬ!

На пятую вандроўку беларускіх вучняў — „ЛЕТА-89“, якая адбудзецца ад 29 чэрвеня да 3 ліпеня г.г. на трасе: Кляшчэлі — Чаромха — Клюковічы — Такары — Клюковічы. Зборны пункт у Кляшчэлях на вул. Дабрыводскай у чацвер 29 чэрвеня пасля абеду. З сабою трэба ўзяць: патрэбныя ў дарозе асабістыя рэчы, спальны мяшок, харчовыя прадукты і добры настрой. Арганізатары запэўніваюць начлег ды цікавую праграму вандроўкі.

Вучні тэатральнай групы „Парнас“ з Бельска-Падляшскага.




Перспектыва. *„Людаш матьі“ (Венгрыя)*

## АФАРЫЗМЫ

Калі б мірным плугам зямны шар араць, тады б вайна не магла свайго парастка выпускаць.

*

Не палюбіць ніводзін начальнік таго, калі падначалены мудрэйшы за яго.

*

Наколькі мера існавання света штодзень прадаўжаецца, настолькі нітка жыцця чалавека — скарачаецца.

*

Не адгародзіш варожасці плотам.
Не ўстанавіш міра пад кулямётам.

*

Гэта не багацце, калі ім хваліцца.
Багацце тады, калі ім дзяліцца.

**Язэп Карпюк**

## ДЗЯКУЙ ЗА ДАПАМОГУ!

— Іван Пятровіч, мы прафсаюзны сход праводзіць будзем?
— Будзем!
— А даклад на ім хто-небудзь зробіць?
— Абавязкова!
— А выступаць на ім будуць?
— Будуць.
— А пастанову мы прымем?
— Абавязкова.
— А ў прэзідыум трох чалавек выберам?
— Выберам!
— А дэлегата на куставую канферэнцыю выберам?
— Выберам!
— Ці не правесці нам сход у сераду?
— Правесці.
— Ці не запрасіць на яго старых членаў прафсаюза?
— А як жа!
— І прадстаўніка вышэйстаячай арганізацыі?
— Зразумела!
— І пачнём яго, як звычайна?
— Як звычайна.
— І сакратарка Траляля няхай усіх папярэдзіць?
— Няхай Траляля...
— Даклад, вядома ж, мне даручыце?
— Вам.
— І ўсё астатняе таксама?..
— І ўсё астатняе.
— Прабачце, што адарваў вас ад важных спраў.
— Нічога, нічога. Заходзьце.
— Дзякуй за дапамогу, Іван Пятровіч!

**Уладзімір Цвяткоў**
*(„Вожык“ № 3/1989)*

## ГУМАР З ГАБРАВА

*

*Балгарскі горад Габрава з'яўляецца месцам штогадовых міжнародных фестываляў сатырычнай і гумарыстычнай літаратуры, а габраўцы лічацца сярод балгараў самымі дасціпнымі. Нашым чытачам прапануем гумар аб габраўцах.*

*

— А дзе твой пярсцёнак?
— У гэтым тыдні носіць яго мая жонка.

*

— Печаў знаходзіцца на вельмі вострай дзюсе.
— Дык можа запрасіць яго на абед?

*

Два жыхары Габрава паспрачаліся і пастанавілі вырашыць спрэчку ў дуэлі. Каб не рабіць з сябе пасмешышча ў сваім горадзе, прыдумалі біцца ў іншай мясцовасці, далёка ад Габрава. Адзін з іх купіў білет толькі ў адзін бок, а другі — зваротны.
— Бачу, што не разлічваеш на магчымасць вяртання, — іранічна заўважыў адзін з сапернікаў.
— Вярнуся! З тваім білетам.

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

### ЧАГО ВАДА КАЛАМУТНА
(народная)

Чаго вада каламутна,
Чаго, дзеўчына, так смутна?
— Я не смутна, я сярдзіта,
Бо я ўчора была біта.*

Біла мяне маці з ночы
За Іванкавы чорны вочы,
Шчэ й казала будзе біці,
Каб Іванку не любіці.

Мамка мая даражэнька,
І ты ж была маладзенька,
Ты ж хадзіла так за бацькам,
Як цяпер я за Іванкам.

Табе лёгка было, маці,
Між сваімі выбіраці,
Выйшла ты за майго бацьку,
Я ж люблю чужога Йванку.

* Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.






*

Эпітафія на вясковых могілках: „Тут спачывае Анатоль Б., які дваццаць год пражыў у цёшчы і памёр з цвёрдым перакананнем, што ў будучым чакае яго лепшае жыццё“.

*

Аб'ява ва ўніверсальным магазіне ў Чыкага: „Скаргі прымаюцца на 23 паверсе. Ліфт не працуе. Просім карыстацца лесвіцай“.

*

Прыгожая маладая дама здае экзамен на шафёрскія правы. Экзаменатар пытае яе:
— Што абазначае белая лінія пасярэдзіне дарогі?
— Гм... Пэўна, гэта для веласіпедыстаў...




Чалавек можа ўсё! Асабліва рабіць выгляд, што ўсё можа.